*ЗАРПЛАТЫ*

# Чыноўнікі – трэція па зарплаце. Пакуль

СМАРГОНЬ. 17 мільёнаў 437 тысяч рублёў у сярэднім склала зарплата за красавік работнікаў органаў крэдытавання і дзяржаўнага страхавання. Гэта самы высокі на Смаргоншчыне паказчык.

На другім месцы з 11863 тысячамі рублёў – будаўнікі. Работнікі апарату органаў кіравання ўзняліся на трэці радок і атрымалі ў красавіку па 10448,6 тысячы рублёў.

У сувязі з павышэннем мінімальнай зарплаты з 1 мая дзяржаўныя чыноўнікі павінны выйсці на першае месца, бо чакаецца, што іх зарплата будзе праіндэксаваная на 90 працэнтаў, у той час як работнікі адукацыі (9002 тысячы), грамадскіх арганізацый (9400 тысяч), гандлю, грамадскага харчавання (8427 тысяч) і іншыя бюджэтнікі атрымаюць зарплату ўсяго на 28–31% большую, чым у красавіку.

*Павел МАКЛЮК.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 19.05 | 26.05 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 460 | 455 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1179 | 1179 |
| Сасіскі | 1 кг | 440 | 443 |
| Селядзец | 1 кг | 300 | 300 |
| Рыс | 1 кг | 200 | 200 |
| Цукар | 1 кг | 138 | 138 |
| Грэчка | 1 кг | 170 | 170 |
| Алей | 1 л | 380 | 385 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 150 | 150 |
| Маянэз | 250 г | 80 | 70 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 450 | 450 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | 120 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 110 | 105 |
| Лімоны | 1кг | 500 | 500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 240 | 200 |
| Масла | 1 кг | 500 | 500 |
| Тварог | 1 кг | 140 | 160 |
| Малако | 1,5 л | 50 | 60 |
| Бульба | 1 вядро | 300 | 300 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 170 | 180 |

*ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА*

# Ёсць інкубатары і для бізнесу

*МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы "Бізнес–інкубатар", даччыная фірма "Бізнес–цэнтра", якую ўзначальвае **Сямён Старадынаў**, толькі летась распачала сваю дзейнасць, але ўжо атрымала міжнародны грант.*

Днямі з Ліды сюды прыязджаў дырэктар адпаведнага, але больш сталага "інкубатара" **Леанід Масцюгін** (ён кандыдат тэхнічных навук, больш за пяць год займаецца гэтай праблематыкай), каб падзяліцца досведам з маладзечанцамі. Ён правёў семінар для бухгалтараў і кіраўнікоў прадпрыемстваў. Распавядаў пра сістэмы, якія найбольш эфектыўна дазваляюць выкарыстоўваюць нематэрыяльныя актывы (ноу–хау і іншыя аўтарскія правы).

Прадстаўнік Лідскага цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва расказаў, як актыўна яны ў горадзе ўдзельнічаюць у міжнародных бізнес–праектах, карыстаюцца фінансавай падтрымкай міжнароднай арганізацыі ТАСІС. Цяпер чвэрць падобных праектаў плануецца здзяйсняць бясплатна для мясцовых удзельнікаў. У перспектыве гэта лідскі радзільны дом, школа. Астатнія прадпрымальнікі павінны самі аплачваць трэць кошту міжнароднага бізнес–праекта. Трэць фінансуюць інвестары. І яшчэ трэць фінансавых сродкаў патрабуецца ад гарадскіх уладаў.

На сваім асабістым прыкладзе Л. Масцюгін пераканаўся, што ўдзел у міжнародных праграмах – справа сур'ёзная і прыбытковая. Сумесна з маладзечанскім ДП «Бізнес–інкубатар» ён прапанаваў маладзечанцам сваю падтрымку. Натуральна, не дарма.

Верагоднасць атрымаць дапамогу ад замежных інвестараў у беларускіх прадпрымальнікаў невялікая, але ёсць. Бо тых, па–ранейшым, прываблівае зручнае тэрытарыяльнае месцазнаходжанне краіны, танная рабочая сіла, высокі адукацыйны ўзровень насельніцтва і (у параўнанні з іншымі краінамі СНД) нізкі ўзровень крымінагеннасці. Але насцярожвае праблема канвертацыі валюты, наяўнасць некалькіх яе курсаў, нестабільнасць у заканадаўчай і дзяржаўнай сістэмах.

Што датычыцца маладзечанскіх прадпрымальнікаў, то яны скептычна ставяцца да міжнародных праграм, бо існуючая падатковая сістэма не спрыяе іх жыццядзейнасці і эфектыўнасці.

*Святлана САРОКА.*

*ДАВЕДНІК*

# Поліэтылен на ўтыль

*МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю "РГ" звярнуўся з пытаннем гараджанін **А. Крот**. Куды можна здаць на ўтыль–сыравіну поліэтыленавую плёнку? Адказвае майстар нарыхтоўчай канторы **М. Янушэвіч**:*

– Мы прымаем поліэтылен па 2 тысячы рублёў за 1 кг. Калі вы маеце яго вельмі шмат, то можам і транспарт выслаць па жаданні кліента. Наша нарыхтоўчая кантора знаходзіцца па вуліцы Ларына, 4. Працуе з 8.00 да 17.00, акрамя суботы і нядзелі. Па горадзе таксама дзейнічаюць нарыхтоўчыя ларкі па вуліцах Лясной, Віленскай (ля магазіна "Крышталь"), М. Багдановіча, Черняхоўскага (ля прадуктовага магазіна), Чкалава (ля СШ №2), Лебедзеўскай (за ВА "Юнона"), на тэрыторыі калгаснага рынку, ля Старога Места і іншыя. Праблемы, каб здаць поліэтылен, не існуе.

*Аддзел інфармацыі.*

*КАДРЫ*

# Уладзімір Галавач, які працаваў з Ельцыным



ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

У мясным павільёне Маладзечанскага калгаснага рынка ўсе гандляры ведаюць раздзельшчыка мяса **Уладзіміра Галавача**. Дзядзька Галавач і мяса добра рассячэ, і гісторыю цікавую раскажа. У канцы работы абавязкова прыбярэ рабочыя месцы, пасыпле бялюткай соллю калодку:

– Па інструкцыі дваццаць дзевятага года, – усміхаецца ён.

Расказаць Уладзіміру Галавачу ёсць што. Як вучыўся, напрыклад, у горадзе Кушве на Свярдлоўшчыне ў тэхнікуме, а пасля працаваў на агламератным камбінаце у адной змене з Генадзем Мікалаевічам Ельцыным, родным братам сённяшняга прэзідэнта Расіі. Дзяжурныя слесары Ельцын і Галавач былі сапраўдымі сябрукамі.

Лёс, урэшце, вярнуў Уладзіміра на Радзіму. Віруе жыццё на калгасным рынку. І пакуль верашчаць кабанчыкі на падворках нашага люду – ёсць работа і ў дзядзькі Галавача, або проста Міхалыча.

*Мікола ГАЙДУК.*

*СІТУАЦЫЯ*

# Пракуратура падае прыклад

МАЛАДЗЕЧНА. На пачатку 90–х, калі ў горадзе бы грыбы раслі новыя прадпрыемствы, асабліва недзяржаўнай формы ўласнасці, НВК "Алімп" пачаў узводзіць трохпавярховы службовы будынак па вуліцы Буйніцкага. Затым будаўніцтва працягваў для сябе ўжо банк "Альянс". Неўзабаве (пасля структурных рэарганізацый) гаспадаром будоўлі лічыўся ААБ "Беларусбанк". У жніўні 1995–га работы наогул спыніліся. Выкупіла недабудаваны будынак Пракуратура РБ.

Маладзечанцы добра ведаюць, у якіх умовах даводзілася доўгі час працаваць мясцовым ахоўнікам законнасці – першы паверх жылога дома, невялічкія кабінецікі (кожны на двух супрацоўнікаў) не спрыялі аўтарытэту арганізацыі. Міжрайпракурор **Генадзь Вештарт** даўно падбіраў варыянты перасялення супрацоўнікаў у больш зручнае памяшканне, але гэты "трохпавярховік" доўга "выбіваў" у Пракуратуры РБ.

Тую "недабудоўлю" з баланса на баланс перадаць не атрымалася. У студзені 1998 года Пракуратура краіны выкупіла яе ў банка і з мая тут зноў пачаліся работы. Ці то спрацаваў імідж заказчыка, ці то будаўнікі трапіліся добрыя, але праз колькі месяцаў мясцовая пракуратура справіла наваселле. Міжрайпракурор добрым словам адзначае МПМСР (кіраўнік **Канстанцін Манюк**), "Будаўнік" (кіраўнік **Вячаслаў Вялічка**), "Барыт–колер–камфорт" (кіраўнік **Марыя Тарчыла**), АТ "Забудова" (кіраўнік **Іосіф Русак**).

Генадзь Вештарт на практыцы правярае сцвярджэнне пра тое, што спачатку трэба забяспечыць умовы і толькі затым патрабаваць. Супрацоўнікі пракуратуры маюць новыя – выдатныя – умовы. На кожнага – свой кабінет, з'явіліся памяшканні пад лабараторыю крыміналістыкі, архіў, залу пасяджэнняў.

Было б ненармальным цягнуць сюды старыя сталы і шафы. Тым болей, што тэхналагічны праект, які карэктавала майстэрня ахітэктара **Аляксея Утулкіна**, прадугледжваў сучасную мэблю і офіснае абсталяванне. Наведвальнік, які раптам не ўбачыць шыльдачку на будынку, можа падумаць, што апынуўся ў офісе нейкай кампаніі ці банка.

Многія па–добрым пазайздросцяць работнікам маладзечанскай міжрайпракуратуры. Некаторыя могуць і пазласлівіць. Але нельга не пагадзіцца з тым, што нармальныя ўмовы для работы павінны мець усе. І калі нейкая арганізацыя паляпшае ўмовы работы сваіх супрацоўнікаў, то чаму б і астатнім так не зрабіць?



*Прыгожы будынак ніяк на асацыіруецца са строгімі функцыямі яго насельнікаў.*

# БАРдак, або БАР дзеля каго?

Ёсць у пракуратуры добра вядомы ў Маладзечне сусед – піўбар. На жаль, вядомы ён не якасцю піва ці разнастайнасцю закусак для яго. Збіраюцца там людзі розныя – і з лазні, што насупраць, і аматары выпіць заходзяць. Ёсць і тыя, якія завітваюць сюды хутчэй выпадкова. Пішу так падрабязна, бо некаторыя з прабывальнікаў бара ладзяць туалет проста пад яго сценкай – з боку пляцоўкі для стаянкі аўтамабіляў. Нам паабяцалі садзейнічанне ў фатаграфаванні гэтых "аб'ектаў", таму сёй–той з гараджанаў можа неўзабаве пазнаць сябе на здымку ў газеце.

А ў бары можна было б наладзіць харчаванне "fast food" (бутэрброды, піца, гамбургеры) і сюды б з задавальненнем завіталі многія. У тым ліку, работнікі вузла сувязі, той жа пракуратуры, дый ці мала яшчэ якіх блізкіх прадпрыемстваў. Цану на піва можна было б і падняць – нармальны чалавек пасля лазні куфаль–другі вып'е, а вось аматары выпіць падумаюць, каб дзе ўзяць таннейшае. Варыянтаў хапае, трэба толькі нешта рабіць. А пакуль прыходіцца канстатаваць, што аб'яднанне грамадскага харчавання чарговы свой пункт запускае, нібы не хоча атрымліваць грошы ад яго работы.

Гэта пры тым, што прадпрымальныя людзі імкнуцца адкрыць піўныя бары і рэстараны ў туалеце, што ў гарадскім парку, або ў прыбудове да рабочага інтэрната. Тут жа памяшканне фактычна прастойвае.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*



*Злева – недагледжаная, хранічна засмечаная пляцоўка пад аўтастаянку, а пад сцяной піўбара і месціцца «туалет тыпу сарцір».*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

# Аўта–мота Смаргоншчыны

СМАРГОНЬ. Прыватны аўтапарк насельніцтва раёна і горада папоўніўся яшчэ на 1500 аўтамабіляў, пераважна, патрыманых і замежнай вытворчасці.

Цяпер ён складае звыш за 9 тысяч аўто. Гэта азначае, што мае чатырохколавы транспарт прыкладна кожны сёмы жыхар Смаргоншчыны.

*Павел МАКЛЮК.*

# Экспарт падае

СМАРГОНЬ. Прадпрыемствы раёна сёлета знізілі аб'ёмы экспартных паставак прадукцыі за мяжу. Толькі завод аптычнага станкабудавання і лясгас справіліся з прагнознымі паказчыкамі.

У цэлым па раёне знешнегандлёвы абарот склаў 2305 тысяч долараў ЗША і зменшыўся на 13,5%. Экспарт у краіны СНД знізіўся на 23,4% (з іх у Расію – на 30,4% ці на 349,8 тысячы долараў). А вось у дзяржавы так званага далёкага замежжа экспарт павялічыўся на 1,2% ці на 9,7 тысячы долараў.

Што датычыць імпарту, то ён зменшыўся на 31,3%. Сальда ж знешнегандлёвага абароту станоўчае і складае 1028 тысяч долараў.

У натуральных паказчыках дапусцілі зніжэнне экспарту агрэгатны і ліцейна–механічны заводы, ААТ "Смаргонскі камбікормавы завод".

*Павел МАКЛЮК.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Ірыны БУЦЕР



**Па гарызанталях**: 1. Нормы, правілы паводзінаў у грамадстве. 6. У вайсковай справе: вугал, які ўтвараецца зададзеным напрамкам руху і напрамкам на поўнач. 10. Рэчы, упакаваныя для перавозкі цягніком. 11. Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды і грамадства. 12. Паламаная, папсаваная рэч. 13. Нікчэмнасць, мізэрнасць. 14. Самаходная браніраваная машына. 17. Назва ўсходне–славянскіх плямёнаў, якія ў V–VI ст. ст. жылі ў міжрэччы Днястра і Дняпра. 18. Невялікая вузкая хусцінка. 19. Верхняя частка дрэва. 24. Сярэдневяковае містычнае вучэнне. 25. Лётчык. 27. Адкрыты прылавак для гандлю. 28. Абеззаражванне ран. 32. Пэўны парадак у следаванні чаго–небудзь. 33. Прамысловае ці гандлёвае прадпрыемства. 36. Рух нагой пры хадзьбе. 38. Некалькі фурманак з грузам. 39. Тое, што і карэц. 41. Даследаванне, вывучэнне шляхам раскладвання на састаўныя часткі. 42. Тое, што дае карова, каза. 43. Першая частка складаных слоў, якая адпавядае па значэнні словам вада, водны. 44. Чалавек, які ў свабодны час займаецца чым–небудзь. 45. Шчэбень для ўмацавання шпал.

**Па вертыкалях:** 1 Металічны грашовы знак. 2. Адплата за паражэнне. 3. Выгіб берага ў рацэ. 4. Прыстасаванне для гульні ў хакей. 5. Механізм складанай будовы. 7. Прасторны пакой для прыёму гасцей. 8. Буйная выкапнёвая жывёла, падобная на слана. 9. Чалавек, які валодае ведамі аб падрыхтоўцы і вядзенні бою. 12. Асобная састаўная частка ланцуга. 15. Масавая народная гульня: рух па кругу. 16. Заключная частка, канец. 20. Рад бярвенняў, пакладзены зверху для прыкрыцця. 21. Спосаб хуткага запісу мовы. 22. Заканамерны парадак. 23. Гарадская чыгунка на коннай цязе. 26. Перыяд здачы экзаменаў у ВНУ. 29. Чарга ў млыне. 30. Скупы, прагавіты чалавек. 31. Хімічны элемент, мяккі, коўкі метал. 34. Знявага. 35. Перыяд, ступень у развіцці, росце чалавека. 37. Дамашнія рэчы, маёмасць. 39. Стос якіх–небудзь прадметаў. 40. Куча сена, складзеная конусам.

***Адказы на чайнворд, змешчаны ў №20.***

1. Рэстаўратар. 2. Рыцар. 3. Рэвальвер. 4. Рэпетытар. 5. Рупар. 6. Рэтушор. 7. Рэактар. 8. Рэфарматар. 9. Радар. 10. Ротмістр. 11. Рэжысёр. 12. Рымар. 13. Рэзервуар. 14. Радыятар. 15. Рэпарцёр. 16. Рататар. 17. Рэзанёр. 18. Ротар. 19. Рэестр. 20. Рэдактар. 21. Рытар. 22. Рэктар. 23. Рэфрыжэратар. 24. Рэгістр. 25. Рокер. 26. Рэвізор. 27. Ранжыр. 28. Рэспіратар. 29. Рэпертуар.

КАЛЯНДАР САДАВОДА–АГАРОДНІКА

# Чэрвень: Лета ў гародзе, садзе, кветніку

У пачатку чэрвеня высадзіце ў адкрыты грунт расаду таматаў, агуркоў, кабачкоў і гарбуза. Для паскарэння развіцця раслін хаця б на першы час памясціце іх пад плёначныя ўкрыцці каркаснага тыпу. З пачаткам цвіцення плёнку здыміце, глебу трымайце пастаянна рыхлай і чыстай ад пустазелля. Праз 2–3 тыдня пасля высадкі расады кабачкоў і іншых гарбузовых раслін правядзіце першую падкормку растворам каравяку ў суадносінах 1:10 з дабаўкай суперфасфату і калійнага ўгнаення (па 2 сталовыя лыжкі на вядро вады).

***

Для атрымання добрага ўраджаю расліны патрэбна правільна сфармаваць. На гарбузе галоўнае сцябло прышчыпніце, калі ён будзе даўжынёй 1,3 метра, пакіньце на ім тры бакавыя парасткі даўжынёй 60–70 см з адным плодам на кожным. У кабачка асноўнае сцябло прышчыпніце ў пачатку бутанізацыі, а бакавыя – пры даўжыні іх 35–40 см.

***

Таматы высадзіце на адкрытае сонечнае месца, таму што яны патрабавальныя да святла. Лепшай лічыцца расада вышынёй не больш за 20–25 см з цёмна–зялёнымі лістамі і сцяблом з цёмна–фіялетавым адценнем. Такую расаду высаджвайце толькі вертыкальна. Пры пасадцы заглыбляйце расліны так, каб сцябліны былі агаленыя толькі напалову.

Пераpослую расаду саджайце нахілена або лежачы ў разоркі глыбінёй 10–15 см. Засыпайце яе глебай прыкладна на трэцюю частку сцябліны. Пазней верхавіны падымуцца, а засыпаныя часткі сцяблін дадуць дадатковыя карані.

Пры пагрозе замаразкаў расаду добра паліце цёплай вадой і закрыйце плёнкай. Цёплая вільготная зямля будзе аддаваць цяпло і захавае расліны ад халоднага паветра.

Праз два тыдні расаду падкарміце (0,5 л каравяку і 1 сталовую лыжку нітрафоскі на вядро вады).

Другі раз падкарміце ў час цвіцення другой кветкавай гронкі (па паўлітровым слоіку курынага памёту і каравяку, сталовую лыжку сульфату калію і палову маленькай лыжкі борнай кіслаты на 10 л вады). Трэці раз – у пачатку плоданашэння (паўлітровы слоік курынага памёту, сталовая лыжка мачавіны на 10 л вады).

## Вузельчыкі на памяць

Пасынкі, што з'яўляюцца, выломвайце, пакідаючы пянёк у 1 см, каб не з'яўляліся новыя парасткі. Пасынкаванне паскарае высяпванне пладоў і павялічвае ураджай першых збораў.

***

Кусты бульбы, якія дасягнулі вышыні 15–20 см, акучце.

***

Кветкі рэгулярна праполвайце, рыхліце, палівайце, падкормлівайце. Выдаляйце суквецці, што адцвілі.

***

Адналетнія астры да пачатку галінавання акучце на вышыню 5–7 см. Палівайце іх рэдка, але шчодра, таму што высокая вільготнасць паветра і глебы спрые развіццю хвароб гэтых прыгожых кветак. Пасля паліву кусты падрыхліце. На малапладародных глебах 2–3 разы падкарміце. Першы раз – праз 10–15 дзён пасля пасадкі (па 30–40 г аміячнай салетры і суперфасфату, 20–30 г каліяйнай солі), другі раз – у час масавай бутанізацыі (па 25–30 г каліяйнай солі і суперфасфату і 20–25 г аміячнай салетры), трэці раз – у пачатку цвіцення (па 10–20 г каліяйнай солі на 1 кв. м).

***

У канцы чэрвеня – пачатку ліпеня пасейце насенне адналетнікаў для асенняга цвіцення.

### *Работы ў садзе*

У пачатку чэрвеня на штамбах і развілках каркасных галін яблыні і грушы праяўляюцца сонечныя апёкі, атрыманыя рана вясной. На пашкоджаных участках кара мокне і ўспучваецца. Выдаліце такую кару садовым нажом і прамыйце адкрытыя месцы растворам жалезнага або меднага купарвасу (адпаведна 40–50 і 20–30 г рэчыва на 1 л вады). Можна выкарыстаць і слабы раствор марганцоўкі. Потым замажце садовым варам і закрыйце цёмнай плёнкай.

Вакол дарослых пладовых дрэў рассцяліце плёнку або паперу. Драўляным ці металічным скрабком абчысціце штамб і тоўстыя каркасныя галіны ад адмерлых частак кары. Смецце спаліце.

Участкі, пазбаўленыя кары ў выніку сонечных апёкаў мінулых год і іншых пашкоджанняў, апрацуйце растворам жалезнага або меднага купарвасу ў тых жа канцэнтрацыях, што і пры лячэнні сонечных апёкаў. Можна працерці абчышчаныя ўчасткі зялёнымі лістамі шчаўя або налажыць "кампрэс" з іх слоем 1–1,5 см, а зверху абвязаць якім–небудзь матэрыялам. Невялікія раны пасля дэзінфекцыі замажце садовым варам, а вялікія ўчасткі зафарбуйце алейнай фарбай – вохрай ці жалезістым сурыкам.

На штамбы пладаносных пладовых дрэў накладзіце лоўчыя паясы шырынёй 35–40 см. Такія паясы могуць быць разавага карыстання (з паперы, гафрыраванага кардону) і доўгатэрміновымі (з пакулля, ваты, рагожы, мешкавіны). Накладзіце іх так, каб паміж імі і карой штамба не было шчылін, у сярэдняй частцы туга перавяжыце двума–трыма віткамі шпагату, краі паясоў павінны крыху адыходзіць ад кары. Праглядайце іх праз кожныя 10–15 дзён, знойдзеных у іх шкоднікаў – вусеняў яблыневай пладажэркі – знішчайце.

Паясы, прапітаныя растворам энтабактэрыну (1 сталовая лыжка на 1 л вады), не маюць патрэбы ў частых аглядах. Вусені, якія папалі ў паясы, хутка гінуць. Каб суспензія энтабактэрыну не вымывалася дажджом, паясы накрыйце плёнкай і туга перацягніце шпагатам.

У перапрышчэпленых вясной пладовых дрэў выдаліце атожылкі, што з'явіліся ў 15–20 см ад месца прышчэпкі. Калі абвязачны матэрыял пачаў уразацца ў кару, здыміце яго. У галін, перапрышчэпленых чаранком спосабам "за кару", прышчэпкі падвяжыце да апоры. Інакш іх паламаюць птушкі або вецер.

У кроне пладовых дрэў пачынаюць вылучацца падмерзлыя галіны. Лістота на іх дробная, светла–зялёная, яна паступова сохне. Выдаліце такія галіны, не пакідаючы пянькоў, пазбягаючы паломак маладых парасткаў з цёмна–зялёнымі лістамі. Зрэзы зафарбуйце вохрай або жалезістым сурыкам.

Першая палова лета – час інтэнсіўнага росту пладоў і ягад. Усе культуры, якія вырошчваюцца ў садзе, маюць патрэбу ў гэты час у падкормках, а пры сухім надвор'і – і ў паліве.

Асабліва неабходная вада пладаносным суніцам. Паліце яе толькі адзін раз, але шчодра, не трапляючы на лісты і завязі. Глебу прамачыце на глыбіню 30 см.

ПАРАДЫ САДАВОДУ–АГАРОДНІКУ

## Маліна чырвоная

**ЧЭРВЕНЬ.** Калі вы не паспелі пасадзіць новыя саджанцы маліны мінулай восенню або вясной, зрабіць гэта можна ў першых чыслах чэрвеня, выкарыстоўваючы ў якасці пасадачнага матэрыялу зялёныя атожылкі – "крапіўку". У міжраддзях адбярыце здаровыя атожылкі вышынёй 10–20 см. Выкапайце іх з комам зямлі і высадзіце ў падрыхтаваныя лункі. Расліны паліце і пры неабходнасці злёгку прыцяніце.

Калі пасадкі не замульчыраваныя, перыядычна рыхліце глебу, знішчаючы пустазелле. Нанова пасаджаныя расліны рэгулярна палівайце.

## Суніцы

**ЧЭРВЕНЬ–ЛІПЕНЬ.** Пакуль кветаносы пад цяжарам ягад не ляглі на зямлю, каб засцерагчы ягады ад забруджвання і паменшыць распаўсюджванне такога захворвання, як шэрая гніль, глебу ў радах замульчыруйце паперай, плёнкай або чыстай саломай.

Падборам сартоў можна дамагчыся бесперапыннага плоданашэння суніц на працягу 1–1,5 месяцаў. Там, дзе яны падмярзаюць зімой, важны правільны выбар сорту. Асаблівую ўвагу патрэбна звярнуць на ўстойлівасць суніц да шкоднікаў і хвароб.

Пры засушлівым надвор'і кусты палівайце. У час плоданашэння суніцы паліва

ГАРАСКОП 31 МАЯ – 6 ЧЭРВЕНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Нечакана для сябе вы вырашыце праблему, якая доўга не давала спакою і здавалася практычна невырашальнай, але гэта запатрабуе адцягнення сілаў і ўвагі ад сям'і, што можа некалькі азмрочыць у цэлым добры эмацыянальны фон.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Не пашкодзіць невялікі перапынак ў справах. Удалы час для адпачынку, калі ёсць такая магчымасць – пакіньце працу на пару тыдняў. Шчаслівымі будуць халастыя і незамужнія Цяльцы, бо іх сардэчныя праблемы вырашацца нечакана для ніх саміх.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Не захапляйцеся надта вылазкамі на прыроду, можаце здорава прастудзіцца і сустрэць лета з ангінай ці бранхітам. Чакаюцца невялікія фінансавыя паступленні, а вось партнёр па шлюбу можа быць вельмі незадаволеным вашай легкадумнасцю.

**РАК (22.06–23.07)**
Могуць адкрыцца нядрэнныя дзелавыя перспектывы з–за нечаканай весткі ці прапановы. Буйных сум не чакайце, а вось некалькі дробных даўгоў вам вернуць. У асабістым жыцці магчымы паварот назад – да старога раману.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Пакупкі, зробленыя ў гэты перыяд, прынясуць вам сапраўднае задавальненне. Не захочацца пакідаць дом, таму запрасіце сяброў да сябе. Эмоцыі зменлівыя – ад слёз да нястрымнай радасці. Прыемнае знаёмства 1–2 чэрвеня.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Дзевы – не самыя азартныя вандроўнікі, таму любая паездка выглядае для іх, як пакаранне. Аднак дарога абяцае быць прадукцыйнай, таму смела пакуйце чамаданы. Невялікія сямейныя праблемы не па вашай віне. Добрыя перспектывы ў халасцякоў.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кардынальныя змены ў вытворчым жыцці адцягнуць вас на некаторы час ад асабістых спраў. Аднак увесь перыяд вы будзеце адчуваць да сябе павышанную ўвагу з боку процілеглага полу. Магчымая кароткая паездка.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Трэба больш звяртаць увагу на здароўе, і не спрабаваць загружаць сябе работай так, што свету белага не відаць, – ёсць рызыка знайсці сябе на бальнічным ложку. У той жа час на службе магчымыя павышэнне ці прэмія. Правільна размяжуйце сілы.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Вы павінны быць гранічна ўважлівыя да любых прапаноў аб дадатковым заробку, таму што можаце згубіць болей, чым атрымаць. Аднак усе прапановы з ходу адхіляць не варта. Невялікія супярэчнасці ў сям'і.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Павышаная актыўнасць на рабоце і дома. Займіцеся распрацоўкай праектаў ці выкананнем адкладзеных раней спраў. Магчымыя цікавыя дзелавыя прапановы. Надыходзяць таксама і змены ў асабістым жыцці, якія вас прыемна здзівяць.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Турботы прынясуць малодшыя члены сям'і. А ў цэлым – добры перыяд. Не адмаўляйцеся ад прапановы правесці выхадныя на прыродзе, тым больш ёсць магчымасць перспектыўнага (у сэнсе – кахання ці нават шлюбу) знаёмства.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Тым, хто яшчэ не вызначыўся – ці мяняць месца працы, выбару практычна не засталося. Сітуацыя складзецца так, што вы павінны будзеце звольніцца. Але, можа, гэта і нядрэнна, таму што ўжо да канца чэрвеня вы дасягнеце поспехаў на новым месцы.

РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ

# Затрымка развіцця дзяцей

Дзеці, якія адстаюць у фізічным і разумовым развіцці, павінныя штодня атрымліваць наступныя прадукты і харчовыя дабаўкі:

Крупы з пшанічных зародкаў з дадаткам 2 таблетак прэпарата кальцыю і 2 таблетак шыпшыны або хваёвых (здробненых у кавамолцы), 1 мал. лыжкі парашку піўных дрожджаў (Yestamin), 1 мал. лыжкі соевага малака (Granogen), крыху пшанічнага алею і расліннага малака.

Чарачка сырога агародніннага соку з 3 таблеткамі марскіх водарасцяў, 3 таблеткамі альфальфа (здробненымі) і мал. лыжка сродку «Vecon»; хлеб, пірагі і пячэнне з цэльнай пшанічнай мукі, а не з белай; усё падсалоджваць мёдам замест цукру, варэння і г .д.; фінікі замест цукерак; бульба, вараная ў лупінах; шмат зяляніны, свежай садавіны і сухафруктаў (курага, грушы і іншае).

Жэле, прыгатаванае ў дамашніх умовах з дапамогаю «Gelozone» (ірландскі мох) са свежых фруктовых сокаў, якое ўжываць з ёгуртам ці раслінным малаком. Расліннае малако чысцейшае, чым ад каровы (апошняе ў нашыя дні ўтрымлівае шмат рэчываў сумніўнай для здароўя чалавека каштоўнасці). Як і соевае малако, яно ўтрымлівае вітамін B12, «вітамін росту».

*Канстанцыя МЭЛАР.*

